Адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
Валожын
Мінск


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

11 ліпеня 2014 года №28 (1002)



"Адна зямля" едзе ў Ашмяны
Сёлета Гран-пры атрымаў ашмянец Вадзім Лукашэвіч
старонкі 20-21





Будслаў наведала каля 25 тысяч пілігрымаў
Самы малодшы – двухмесячны Мацвей з Ракава
старонка 23

Як атрымаць кватэру ў арэндным доме
с. 3

У Вілейцы адзначылі свята самай старой вуліцы
с. 2

Сто мільёнаў за дапамогу ў пошуку машыны
с. 4


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Скралі мэблю з кавярні

**МАЛАДЗЕЧНА.** 8 ліпеня ад адміністрацыі ААТ "Маладзечнагандаль" паступіла паведамленне, што каля дзвюх гадзін ночы невядомы з тэрыторыі летняга кафэ, што па вуліцы Прытыцкага, выкраў два сталы і дзевяць крэслаў, прычыніўшы шкоду на 2 мільёны 800 тысяч рублёў.

### Дапамогуць сабрацца ў школу

**ВІЛЕЙКА.** Ад 1 ліпеня на Вілейшчыне пачалася штогадовая дабрачынная акцыя "Хутка ў школу". Яна накіраваная на аказанне дапамогі ў падрыхтоўцы дзяцей да школы сацыяльна-ўразлівым і малазабяспечаным сем'ям. Дапамагчы можна рознымі спосабамі. Прынесці канцылярскія тавары, абутак, адзенне ў Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва (вуліца Партызанская, 44, кабінет 4) ці перавесці грошы на дабрачынны рахунак або выбраць сям'ю з банка дадзеных і перадаць ёй тавары. Працягнецца акцыя да 31 жніўня.

### Па чай – у бібліятэку

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзельскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Танка пачалася выстава для аматараў чаю. Тут можна пабачыць розныя гатункі чаю, самавар, кубкі, сподачкі і іншае, паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі **Ірына Цыгельнікава**.

### Падлічым буслоў

Падлік белых і чорных буслоў у Беларусі ладзіць "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Прыняць у акцыі ўдзел можа кожны ахвотны. Для гэтага трэба падлічыць ў сваёй мясцовасці колькасць гнёздаў, занятых птушкамі, лік птушанят у іх, і гнёзды, дзе птушаняты не выраслі. Інфармацыя ўносіцца ў анкету на сайце ptushki.org.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Наталля ТУР.**



# За купанне сабакі "пакусаюць" гаспадара

**ВІЛЕЙКА. Адзін з нашых чытачоў стаў сведкам канфлікту з-за купання сабакі ў сажалцы ў Асіпавічах на Вілейшчыне і папрасіў разабрацца ў сітуацыі.**

Вось яго расповед: "У спякотны дзень 6 ліпеня на беразе вадаёма вёскі Асіпавічы на Вілейшчыне адбылася сварка паміж мясцовымі і маладзечанцамі.

Прычынай стаў вялікі сабака, якога гаспадар прывёў на пляж, потым кінуў у ваду кіёк і той кінуўся ў ваду. Жанчына, якая адпачывала з дзіцем, папрасіла, каб сабаку не пускалі ў вадаём, дзе купаюцца дзеці.

Гаспадар сабакі яе паслухаў, але ж за касматага любімца сям'і, чамусьці ўявіўшы, што іх абразілі, уступілася жонка гаспадара і яе сяброўкі.

Яны пачалі на павышаных нотах сцвярджаць, што гэты штучны вадаём мае прызначэнне як пажарны і што ў ім толькі сабакам і можна купацца, а людзям нельга. Што не маецца шыльдаў, што гэта за вадаём, і ніякіх патрабаванняў аб забароне купання сабак, а калі яны дзе і прапісаныя, то не даведзеныя да ведама насельніцтва. Што іх Рэкс чысцейшы за іншага чалавека, бо жыве ў кватэры, мае санкніжку, прышчэпкі і мыецца штодзень у ванне.

Вяскоўцы, якія трымаюць сваіх Шарыкаў на ланцугу ў панадворку, не давалі веры: каб гэта ў сабакі ды не было сваіх блох. Маладзечанцы ўсё ж былі людзі культурныя, і каб спыніць сварку, адвялі беднага, цяжка хакаючага сабаку ад берагу. Аднак настрой быў сапсаваны з абодвух бакоў".



Фота sunny7.at.

Купаць сабак у месцах масавага адпачынку не дазволена. За гэта можна атрымаць папярэджанне. А калі сабака будзе без намордніка ці не пастаўленая на ўлік, то гаспадар можа быць аштрафаваны на суму ад адной да 15 базавых велічынь за парушаныя правілы ўтрымання хатніх жывёл.

## Ніхто не пакусаў сабаку

Хоць усё скончылася тым, што, як пажартаваў чытач, "нават ніхто не пакусаў сабаку", ён папрасіў высветліць, хто мае рацыю.

Адразу наконт вадаёма ў Асіпавічах: статус яго вызначаны.

– Сажалка ў вёсцы Асіпавічы з'яўляецца месцам масавага адпачынку, – развеяла сумненні вядучы спецыяліст Вілейскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Маргарыта Беллановіч**.

Сажалка прызначаная для купання людзей. За якасцю вады у ёй сочаць.

– Раз на дзесяць дзён ваду ў сажалцы правяраюць на адпаведнасць гігіенічным патрабаванням, – расказала галоўны дзяржаўны санітарны доктар раёна **Наталля Жаўняровіч**. – Апошняя праверка была 9 ліпеня: паказчыкі адпавядаюць патрабаванням.

## Мыць на пляжах бялізну таксама нельга

У Водным кодэксе прыгадваюць толькі сельскагаспадарчых жывёл. Напісана, што ў "водаахоўных зонах і прыбярэжных палосах забараняецца выпас сельскагаспадарчых жывёл па-за ўстаноўленых мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі месцаў".

Аднак ёсць яшчэ адзін дакумент: пастанова Савета Міністраў Беларусі ад 11.12.2009 №1623 "Правілы аховы жыцця людзей на водах Рэспублікі Беларусь". У ім пазначана, што на пляжах, месцах масавага адпачынку ля вады натуральных і штучных вадаёмаў адпачывальнікам забараняецца "мыць на пляжах бялізну і купаць жывёл".

– Гэты дакумент дзейнічае, і на яго можна спасылацца, – пацвердзіў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Аляксандр Роўда**. – І нашы супрацоўнікі папярэджваюць гаспадароў сабак: вадаём, дзе масава адпачываюць людзі, ні ў якім разе не месца для купання іх гадаванцаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Што яшчэ нельга рабіць на вадзе

У водаахоўных зонах і прыбярэжных палосах, згодна з Водным кодэксам, забараняецца:

✔ стаянка механічных транспартных сродкаў, за выключэннем спецыяльна адведзеных ва ўстаноўленым парадку месцаў, а ў выпадку іх адсутнасці – на адлегласці не менш за трыццаць метраў па гарызанталі ад уразання вады.

✔ мыйка транспартных і іншых тэхнічных сродкаў па-за ўстаноўленых месцаў.

● ТРАДЫЦЫІ

# "Ад царквы да двара"

## У Вілейцы адзначылі свята самай старой вуліцы

**ВІЛЕЙКА. Песні 2 ліпеня на вуліцы Савецкай гучалі самыя розныя. У адным кутку – ваенныя, праз колькі метраў гучна маршыравалі піянеры, далей дзяўчаты прыгожа выводзілі беларускія песні.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На апетытны пах рыбы прыйшоў "кот Базіліа".

Так і ў музычным фоне свята-фэсту "Ад царквы да двара" адлюстроўвалася багатая гісторыя вуліцы – самай старой у Вілейцы.

### Здымак ад Беркі Бермана

А яшчэ на прысвечаным вуліцы Савецкай святе яе гісторыя ажывала ў розных героях і пляцоўках. Павольна праходжваўся "староста Вілейскі Юзаф Пац", тут прымасцілася "Вілейскае сельпо" з цэнамі ў рублях і капейках, побач размясцілася фотастудыя вядомага вілейскага фатографа Беркі Бермана.

Ахвотныя маглі зрабіць тут здымак на памяць.

– Больш за ўсё віляйчанам падабалася фатаграфавацца на фоне старадаўніх здымкаў: дзіцячага, сямейнай пары, – кажа старшы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Вольга Коласава**. – У Вілейцы такое ўпершыню – таму, можа, гэта так і ўразіла.

### "Гэта вуліца Пілсудскага называлася!"

Таксама на святе віляйчане пабачылі старыя фотаздымкі вуліцы. "Як прыгожа тут было!", "Во, гэта вуліца Пілсудскага называлася!" – рабіла адкрыццё маладое пакаленне. Старэйшыя людзі спрачаліся, што гэта за дом быў. А самыя дасведчаныя невялічкі экскурс у гісторыю Вілейкі ладзілі.

Уважліва прыглядаўся да здымкаў спадар Віталь:

– Я з 1945 года ў Вілейцы жыву, у пяцігадовым узросце сюды прывезлі. Здымкі гэтыя для мяне вельмі цікавыя: я амаль кожны дом помню. Памятаю, як у Пляснянцы пляскаліся. Тут жа рыба вадзілася, рукамі можна было злавіць – проста ў горадзе.

### Ад здымкаў – да карцін

А некаторыя юныя віляйчане не задаволіліся тым, каб мець на памяць пра свята толькі фотаздымкі, і малявалі карціны – удзельнічалі ў мастацкім пленэры.

– Дзеткі малююць тое, што бачаць: адчуванне гэтага свята, – дзеліцца мастак **Эдуард Мацюшонак**. – У дзяцей добры настрой, бо першы раз такое свята вуліцы, і яны вельмі хацелі прыняць у ім удзел. Таксама тут паказваем працы, якія рабілі падчас летняга пленэру імя Нікадзіма Сілівановіча, прысвечанага Першай сусветнай вайне.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На "Беларускім падворку" віляйчанам паказвалі народныя танцы і запрашалі далучацца.

### Пра Савецкую – у газеце

У многіх у руках можна было пабачыць адмысловае выданне: "Вілейскую газету" выпусцілі якраз да свята. З яе і пра гісторыю вуліцы, і пра яе знакамітых жыхароў, і пра саму Вілейку можна даведацца. І як водзіцца, месца на анекдоты і рэкламу пакінулі – рэкламавалі лапці.

Ды і раздавалі газету цікава: прапаноўвалі яе "паштальён", апрануты пад даўніну.

### Прысмакі да свята

Выстаў народных майстроў на святе было шмат – і якіх багатых! А яшчэ погляды прыцягвалі дамашняя выпечка, прысмакі, рыбка. Выглядала яна так апетытна, што не ўтрымаўся і літаратурны персанаж – "кот Базіліа", які сустракаў малых ля дзіцячай бібліятэкі.

– Такой рыбкай штодня ласавацца кату дорага выйдзе, – жартавалі людзі.

### Тутэйшыя песні і танцы

Народныя песні былі чутныя ля будынка "Белтэлекама", дзе размясціўся "Беларускі падворак". Ладзіла яго студэнцкае этнаграфічнае таварыства з Мінска. Тут плялі вянкі, паказвалі свае ўменні майстрыхі па выцінанцы і набіванцы.

– А нашы хлопцы і дзеўкі з этнаграфічнай экспедыцыі сарваліся і прыехалі сюды танцы паказваць, – кажуць. – І віляйчан запрашаем патанцаваць.

Паміж сталічных музыкаў, якія ігралі танцорам, і вілейскі быў: **Іван Валынец** іграў на цымбалах.

– Першая сустрэча ў нас атрымалася. Яны з Мінска, а я з Вілейкі. Сабраліся, народную музыку іграем.

**– Значыць, вы да мінчан далучыліся?**

– Гэта не ён да нас, а мы да яго далучыліся, – папраўляе музыка са сталіцы. – Доўга яго шукалі.

### Вяселле на Савецкай

На сцэне ля ЗАГСа гучала "Іграй, гармонік, весялей – на Савецкай юбілей". Паказвалі тут цікавы вясельны абрад. І гледачоў, бы гасцей на вяселлі, пачаставалі.

На канцэрце выступалі не толькі мясцовыя артысты, а і з замежжа – Украіны, Расіі, Малдовы. Тут жа ўшанавалі і старажыла **Аляксандра Маліноўскага**, які жыве на вуліцы Савецкай аж 91 год!



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

● ПАМЯЦЬ

# Памятны знак воінам-афганцам

**ВІЛЕЙКА.** У гарадскім парку 2 ліпеня ўрачыста адкрылі памятны знак воінам-афганцам. На ім пазначана, што "Памятны знак устаноўлены Вілейскай раённай арганізацыяй Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане на ахвяраваных народам сродкі".

Створаны ён па эскізе мясцовага архітэктара і краязнаўцы **Анатоля Капцюга.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам ўстаноўлены ў гарадскім парку Вілейкі.

● КОНКУРСЫ

# У любові да Вілейкі прызнаваліся кветкамі і плакатамі

**ВІЛЕЙКА**. Пераможцаў конкурсаў узнагародзілі ў Вілейцы 3 ліпеня.

На раённы конкурс на лепшую кветкавую кампазіцыю "Твой і мой квітнеючы горад" удзельнікі прынеслі кампазіцыі з жывых кветак з разнастайнымі дэкараванымі элементамі (букеты, ікебана, пано, аплікацыі, вянкі, гірлянды). Тут першае месца заняў рамонтны завод, другое і трэцяе – СШ №5 і ЖКГ адпаведна.

Лепшую паштоўку-плакат на тэму "Квітней ты, мой край Вілейскі, раён і народ багацей" стварылі ў СШ №3 горада. Далей размясціліся творы гімназіі №1 "Логас" і СШ №1.

Конкурсныя працы можна было пабачыць 2 ліпеня на святе вуліцы Савецкай, і ўсе маглі прагаласаваць за ўпадабаныя. Прызы сімпатый гледачоў дасталіся рамонтнаму заводу і цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Ганны Новік.

Вызначылі лепшых яшчэ ў дзвюх намінацыях: "Самая маленькая і салодкая праца" (**Ірына Бекеш**) і "Самаму юнаму ўдзельніку" (Чурлёнскі сад-школа).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

СПАЖЫВЕЦ

# Як атрымаць кватэру ў арэндным доме?

**МАЛАДЗЕЧНА. На пытанні, як стаць жыхаром арэнднага дома, колькі будзе каштаваць пражыванне ў ім і якія правы будзе мець жыхар, адказвае начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі райвыканкама Сяргей Бохан.**

– У арэндным 80-кватэрным доме маюць права жыць людзі, якія ўжо стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, а таксама грамадзяне, якія яшчэ на ўліку не стаяць. У цяперашні час завяршаецца працэдура афармлення і рэгістрацыі дома ў бюро тэхнічнай інвентарызацыі. Пасля гэтага цягам месяца мы будзем прымаць заявы ад насельніцтва.

**30 чэрвеня ў Маладзечне ўвялі ў эксплуатацыю першы ў Мінскай вобласці арэндны дом.**


Фота: expalica.com.

Каб стаць жыхаром арэнднага дома, неабавязкова быць зарэгістраваным у Маладзечне. Дастаткова своечасова падаць заяву ў райвыканкам.

Каб стаць у чаргу і жыць у арэндным доме, грамадзяніну трэба падаць некалькі дакументаў. Для тых, хто стаіць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў, гэта заява з указаннем прозвішчаў усіх, хто прэтэндуе на жыллё, і даведка, якая пацвярджае гэтую патрэбу.

Тым жа, хто не стаіць у чарзе, неабходна падаць толькі заяву з указаннем асоб, якія, як плануецца, будуць сумесна жыць, і тыпу кватэры, на якую грамадзянін прэтэндуе, адну- або двухпакаёвую. Пры гэтым тыя, хто раней не стаяў на чарзе, могуць не мець рэгістрацыі ў Маладзечне, іх заявы таксама будуць разгледжаны.

**– Колькі будзе каштаваць арэнда кватэры?**

Кошт арэнднай кватэры на сённяшні дзень складае 24 000 рублёў за квадратны метр. Ён залежыць ад базавай велічыні. На сённяшні дзень кошт арэнды двухпакаёвай кватэры складае каля 1 мільёна 400 тысяч рублёў плюс камунальныя паслугі.

**– У якім выпадку жыхара могуць выселіць з кватэры?**

– Парадак у арэндным доме падпарадкоўваецца агульным правілам. Калі будзе зафіксаваны факт запазычанасці па аплаце або парушэнне правілаў жыхарства, скаргі суседзяў, або на тых, хто жыве, складзеныя пратаколы.

**– Сення кватэры цалкам прыдатныя для жыцця?**

– Так. У кватэрах усталяваная ўся сантэхніка, газавыя пліты. Бяры ключ і жыві. Адзінае, што мэбля ў кватэры не прадугледжаная, таму засяляцца трэба са сваёй.

**Наталля ТУР.**

| Курсы валют НБ РБ | 2.07 | 10.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 210,00 | **10 230,00** |
| Еўра | 13 980,00 | **13 920,00** |
| Злоты | 3 364,09 | **3 374,12** |
| Літ | 4 048,45 | **4 034,15** |
| Расійскі рубель | 298,50 | **300,00** |
| Грыўня | 869,68 | **878,11** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13900/14010 | **13890/13990** |
| Долар ЗША | 10180/10230 | **10200/10240** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 1.07 | 9.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 137900 | **137900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 53900 | **63000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 28900 | **32900** |
| **Ялавічына** (выразка), 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 95000 | **95000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 14000 | **13000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзясятак | 11000 | **13000** |
| **Алей "Масловія"** | 12500 | **13000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 9100 | **9000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 11500 | **11000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 11500 | **10000** |
| **Капуста**, 1 кг | 5500 | **5500** |
| **Морква**, 1 кг | 11000 | **10000** |
| **Буракі**, 1 кг | 10000 | **10000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 30000 | **26500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16500 | **16000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 20000 | **27500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 19000 | **18000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 8000 | **15000** |
| **Перац**, 1 кг | 49000 | **21000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 24000 | **29000** |
| **Бананы**, 1 кг | 13000 | **13500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10500 | **11800** |
| **Грушы**, 1 кг (Дзюшэс) | 22000 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 9000 | **9000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 8000 | **5000** |
| **Сала**, 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |
| **Яйкі**, 1 дзясятак | 15000 | **15000** |

## Дзе можна паспець адпачыць

Браслаўскія азёры, Мелавыя кар'еры, Блакітныя азёры
Тураператары не прапануюць паездкі па Беларусі. Кошт залежыць ад вашага кашалька

Варшава, Вільня, Санкт-Пецярбург
Туры выхаднога дня на двух чалавек каштуюць ад 250 долараў

Балгарыя, Турцыя, Румынія
Бюджэтныя паездкі на 10 дзён на дваіх абыдуцца ад 400 да 1,5 тысячы долараў

Мальдзівы, Мексіка, Шры-Ланка, Арабскія Эміраты
Самыя дарагія паездкі праз мясцовых тураператараў на 10 дзён на дваіх каштуюць каля 5,5 тысячы долараў

©"Рэгіянальная газета"

ЛІЧБА НУМАРА

**340** тысяч чалавек жыве ў сямі раёнах нашага рэгіёна




Маладзечанскі міліцыянер схапіў злодзея за нагу і не даў яму ўцячы.

ЗДАРЭННІ

# Не прайшло і гадзіны, як злодзея затрымалі

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 28 чэрвеня а дзявятай гадзіне вечара каля рынку па вуліцы Багдана Хмяльніцкага.**

Малады чалавек, пагражаючы нажом, патрабаваў у пенсіянеркі кашалёк.

Але здзейсніць задуманае яму чамусьці не ўдалося. 69-гадовая пенсіянерка патэлефанавала ў міліцыю а палове дзясятай гадзіны вечара.

Тут жа на месца здарэння выехалі аператыўнікі.

– Участковы інспектар **Віталь Мурза**, адпрацоўваючы свой участак, па прыкметах заўважыў маладога чалавека. Самастойна яго затрымаў. Пазней стала вядома, што след абутку падазраванага супадае з тым следам, што пакінуў рабаўнік на месцы здарэння. На раскрыццё злачынства міліцыянерам спатрэбілася гадзіна, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" намеснік начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Маладзечанскага РАУС **Уладзімір Васількоў.**

Рабаўніком аказаўся 18-гадовы навучэнец аднаго з маладзечанскіх каледжаў. У цяперашні час ён затрыманы, супраць хлопца ўзбуджаная крымінальная справа. Яму можа пагражаць пакаранне пазбаўленнем волі тэрмінам да трох гадоў.

**Наталля ТУР.**

## На Нарачы ў смаргонца адабралі залаты бранзалет

**МЯДЗЕЛ.** Два адпачывальнікі – жыхары Смаргоні і Маладзечна – 30 чэрвеня каля апоўначы вярталіся ў к. п. Нарач (Купа) з бара. Пайшлі праз лясны масіў у пасёлку. Да іх падышлі двое невядомых. Збілі абодвух, а ў жыхара Смаргоні ў дадатак забралі залаты бранзалет, які ацэнены ў 900 долараў ЗША.

Узбудзілі крымінальную справу за рабаванне, паведаміў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Аляксандр Штура**.

Крыўдзіцеляў шукаюць. Як мяркуюць, іх узрост 25-30 год.

## У Вілейцы з бальнічнай палаты скралі ноўтбук

**ВІЛЕЙКА.** Хворы, які лячыўся ў Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы, 3 ліпеня адпрасіўся схадзіць дадому. У палаце пакінуў ноўтбук, які ўзяў пакарыстацца ў знаёмай.

А калі вярнуўся вечарам, ноўтбука ўжо не знайшоў – нехта прыхапіў яго з незачыненай палаты.

Гаспадыні ноўтбука злодзей прычыніў шкоду на пяць мільёнаў семсот тысяч рублёў, паведаміў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук.**

**Аддзел інфармацыі.**

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Сто мільёнаў за дапамогу ў пошуку машыны

**МАЛАДЗЕЧНА. Міліцыя шукае аўтамабіль "УРАЛ 5757-0000010-01"**

Дзяржаўныя знакі: **В603ВА199**. Машына належыць маскоўскаму таварыству "Мантажбудлізінг".

Яе скралі ў перыяд часу ад 20 гадзін 28 мая да 7 гадзін 29 мая. Аўто месцілася каля пуцеправода аўтадарогі Р 106 Маладзечна-Мінск.

Паміж кабінай і кузавам быў гідраманіпулятар, кузаў быў закрыты, тыпу "Кунг" з металу ў шэрай фарбе.

У кузаве было спецыяльнае абсталяванне: гідрапомпа з назвай вытворцы "Dich Wich" на корпусе, бензагенератар, прылада для свідравання трубаў, каля 50 металічных штангаў даўжынёй 120 см, прыбор "трасашукальнік" з надпісам "Dich Wich" на корпусе. У баку было каля 60 літраў паліва.

**Агульная шкода ад крадзяжу – 1 мільярд 152 мільёны рублёў.**

Па факце ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Крадзеж у асабліва буйным памеры".

Арганізацыя "Мантажбудлізінг" дасць узнагароджанне за любую інфармацыю пра гэтае злачынства, якая дапаможа знайсці машыну.

Узнагароджанне – 10% ад шкоды (115 мільёнаў рублёў).

Калі вы штосьці даведаецеся пра месцазнаходжанне аўтамабіля, звaніце па тэлефонах: **(8029) 554-74-26, (80176) 50-08-54, 77-16-56** ці **102.**

Узнагароджанне і канфідэнцыяльнасць гарантуем.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Шукаюць кіроўцу белага "ДАФ"

**МАЛАДЗЕЧНА. Ён мог быць відавочцам аварыі.**

ДТЗ адбылося 2 чэрвеня каля 14:20 у мястэчку Краснае.

Мікрааўтобус "Мерседэс-Бэнц-310" з кузавам сіне-белага колеру ехаў у бок Маладзечна. Па абочыне ў спадарожным кірунку ехаў чырвоны матаблок "Беларус".

Мікрааўтобус сутыкнуўся з матаблокам. Кіроўца "Беларуса" атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Відавочцам аварыі мог стаць кіроўца вялікагрузнага белага аўто "ДАФ", зарэгістраванага ў Мінскай вобласці. Ён ехаў у бок Мінска.

Просім гэтага кіроўцу звязацца са следчым.

Іншых відавочцаў дарожна-транспартнага здарэння таксама просім патэлефанаваць па нумары **(80176) 77-04-69** з 9 да 18 гадзін у рабочыя дні следчаму **Раману Вітальевічу Арцем'еву**.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Маладзечанскія супрацоўнікі ДАІ – лепшыя ў вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА.** Конкурс сярод камандаў аддзелаў дзяржаўтаінспекцыі Міншчыны прайшоў у канцы чэрвеня.

Міліцыянеры змагаліся ў хуткасным манеўраванні, фізічнай падрыхтоўцы, прымяненні баявых прыёмаў, стральбе з табельнай зброі, веданні прававой базы і Правілаў дарожнага руху, а таксама спрактыкаванасці ў медыцынскай дапамозе.

Першае каманднае месца занялі маладзечанскія работнікі ДАІ: старшы дзяржаўтаінспектар маёр **Павел Аноп**, інспектар ДПС старшы лейтэнант міліцыі **Дзмітры Сергіевіч**, інспектар ДПС лейтэнант міліцыі **Сяргей Колбун**.

Дзяржаўтаінспектар Дзмітры Сергіевіч яшчэ перамог у першынстве па фізічнай падрыхтоўцы.

## Збіў пешахода ў двары

**МАЛАДЗЕЧНА.** 59-гадовая маладзечанка, якая тут жыла, стаяла за машынай.

34-гадовы кіроўца аўтамабіля "Сітраэн-Ксара Пікаса" рушыў заднім ходам.

Мужчына ехаў па дваровым праездзе па вуліцы Валынца. Не заўважыўшы жанчыну, кіроўца наехаў на яе.

Здарэнне адбылося каля 20 гадзін 28 чэрвеня.

Пацярпелую шпіталізавалі ў траўматалогію. Следчы камітэт праводзіць праверку.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

УВАГА! ВЫШУК

## Знік 84-гадовы мужчына

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел унутраных спраў Мінаблвыканкама шукае зніклага Яўгена Аляксандравіча Давідовіча.**



Ён нарадзіўся 9 ліпеня 1930 года (84 гады). Жыў у вёсцы Раёўка Маладзечанскага раёна па вуліцы Лугавой.

Мужчына 24 чэрвеня каля 15 гадзін пайшоў з дому. Дагэтуль яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 80-84 гады. Блакітныя вочы, сівыя кароткія валасы, мае залысіны. Моцны голас, невыразнае маўленне.

**Быў апрануты** ў цёмна-шэрую кепку, чорную балонневую куртку, чорныя штаны, залатыя каля сцяга, цёмнасінюю кашулю ў клетку з доўгімі рукавамі.

Пры сабе меў зялёны ровар "Аіст" і невялікую сякеру.

Пераканаўча просім тых, хто штосьці ведае пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у маладзечанскую міліцыю па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56** ці **102.**

**Андрэй КАВАЛЁНАК, оперупаўнаважаны аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі, старшы лейтэнант міліцыі.**

● ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# У Гервятах абнаўляюць вітражы

**АСТРАВЕЦ. Замест узораў у вокнах касцёла Святой Тройцы з'явяцца выявы святых.**

Над гэтым працуюць гродзенскія майстры.

Наведнікі ўжо могуць убачыць першыя 48 выяў, якія размясцілі на чатырох вокнах. Усяго іх будзе 162 на 12 вокнах.

– Праца па ўсталяванні вітражоў вельмі руплівая і дарагая, – патлумачыў ксёндз-пробашч Гервяцкага касцёла Святой Тройцы **Леанід Нясцюк**. – Але няхай лепш з вітражоў глядзяць абліччы святых, чым беззмястоўныя малюнкі. Мы ж нічога новага не выдумляем, проста паўтараем тое, што было раней.

**Работа па ўстаноўцы вітражных вокнаў закончыцца восенню 2015 года.**

Паводле інтэрнэт-рэсурсаў, касцёл Святой Тройцы ў аграгарадку Гервяты – самае наведвальнае турыстамі месца. Ён нязменна лідзіруе ў рэйтынгах самых прыгожых і незвычайных храмаў Беларусі. Гервяцкі касцёл уваходзіць у тройку самых высокіх храмаў краіны. Яго вышыня – 61 метр (20-павярховы дом).

Гэта адзін з лепшых прыкладаў неагатычнага стылю і адзіны на Беларусі, у архітэктуры якога вытрыманыя ўсе стандарты готыкі. Бакавыя сцены маюць вытанчаныя аркі-аркбутаны, такія, як у парыжскім Нотр-Даме. Гэта выключная з'ява для культавай архітэктуры, якая ёсць толькі ў двух беларускіх касцёлах.

Але не толькі незвычайная архітэктура 110-летняга касцёла прываблівае турыстаў.

Ксёндз-пробашч Леанід Нясцюк ператварыў храм у сапраўдную пэрліну. Спачатку ў агародах пачалі садзіць экзатычныя расліны. Цяпер іх сабралася больш за дзве тысячы. Ім стала цесна ў агародах, і святар пачаў добраўпарадкоўваць ландшафтны парк на цэнтральнай плошчы Гервятаў, што каля касцёла. Ідучы па




Гервяцкі касцёл Святой Тройцы цяпер у рыштаваннях – на вокнах абнаўляюць вітражы.

гэтым парку да храма, турысты здзіўляюцца прадуманасці размяшчэння фігурак апосталаў, строгай геаметрыі і тым, якое агульнае ўражанне выклікае ўвесь комплекс.

Наведнікаў зачароўваюць і гукі аргана. Для іх іграе **Андрэй Міхневіч** – арганіст касцёла, магістр музыкалогіі, бакалаўр культуры і гісторыі музыкі. Касцёл мае ўнікальную акустыку.

Вясной і восенню тут ладзяць вялікія арганныя канцэрты, якія збіраюць аматараў музыкі з Беларусі і Літвы.

Гервяты ўваходзяць у турыстычны маршрут "Касцёлы Вілейскага краю". У мястэчку таксама захаваўся млын 19 стагоддзя, вайсковыя могілкі Першай сусветнай вайны.

**Аляксандра НАВАСНАЯ,**
**Астравец.**

● КУЛЬТУРА

## "Вілейская хваля" раздала ўзнагароды

**ВІЛЕЙКА. У Палацы культуры 1 ліпеня прайшоў гала-канцэрт раённага фестывалю аўтарскай песні і паэзіі "Вілейская хваля – 2014".**

На ім падвялі вынікі чацвертага па ліку фестывалю, які праходзіў напрыканцы мая.

Пераможцамі фестывалю прызналі ўсіх удзельнікаў гала-канцэрта, а асобных яшчэ адзначылі ў розных намінацыях. Ім прызначаліся каштоўныя призы і дыпломы фестывалю.

Сярод моладзі гэта **Вадзім Чур** (намінацыя "Паэтычная надзея"), аўтар-выканаўца **Тарас Апарык** ("Надзея аўтарскай песні"), выканаўца **Уладзімір Высоцкі**.

У сярэднім і старэйшым узросце ўзнагародзілі **Барыса Манцэвіча** ("За паэтычную маладосць душы"), аўтара-выканаўцу **Леаніда Гайчука**, народную эстрадную студыю аўтарскай песні "Імпэт" Ільянскага СДК (кіраўнік **Галіна Кутас**). "За адданасць паэтычнаму слову, аўтарскай песні і ў сувязі з юбілеем" адзначылі **Віктара Кажуру і Уладзіміра Цанунiна**.

Да гала-канцэрта зрабілі вялікі сімвал фестывалю – паруснік. Распрацавала яго мастачка цэнтра эстэтычнага выхавання **Ала Суднікові́ч**.

– Пасля гала-канцэрта віляйчане прызнаваліся, што змаглі адкрыць для сябе новыя імёны у аўтарскай песні і паэзіі сярод землякоў, – кажа старшыня журы дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч**. – Хачу падзякаваць усім удзельнікам фестывалю. І тых, хто не выступаў на гала-канцэрце, будзем таксама запрашаць да ўдзелу ў музычна-паэтычным марафоне "Вілейская хваля".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Загінуў на шосты дзень вайны, пахавалі праз 73 гады

**МАЛАДЗЕЧНА. Цырымонія перапахавання астанкаў загінулых лётчыкаў адбылася другога ліпеня ля Краснага. На ўрачыстасць прыехаў унук аднаго з членаў экіпажа штурмана Сяргея Какшарова.**

Унука лётчыка таксама завуць **Сяргей Какшароў**. Бацькі далі яму імя ў гонар гераічна загінулага дзядулі. Ён прыляцеў з Екацярынбурга спецыяльна, каб правесці свайго продка ў апошні шлях.

– У дзяцінстве, калі мы пыталіся ў бабулі пра лёс дзядулі, яна расказвала толькі тое, што ён герой і загінуў на вайне. Мы неаднаразова пасылалі запыты, каб даведацца, як загінуў дзядуля. Але заўсёды прыходзіў адзін адказ: "Прапаў без вестак". Пры сваім жыцці бабуля так і не даведалася, дзе пахаваны дзядуля, – распавядае Сяргей Какшароў.

Штурмана Сяргея Какшарова прызвалі ў войска ў 1931 годзе, калі яму было 20 гадоў. Адпаведна, у пачатку вайны яму было 30 гадоў. Дома, тады яшчэ ў Свярдлоўскай вобласці, яго засталіся чакаць жонка, Клаўдзія Пятроўна, і двое дзяцей: аднагадовая дачка Маргарыта і шасцігадовы сын Юры.

– Мой бацька, Юры Какшароў, калі яго прызвалі ў войска, адразу папрасіўся ў лётчыкі. Ён вельмі шанаваў памяць свайго бацькі, блакітныя пагоны авіяцыі насіў з асаблівым гонарам. І мяне назваў у гонар дзеда, – кажа Сяргей Какшароў.

У 1992 годзе ў Екацярынбург ад краязнаўцы з Радашкавічаў **Вячаслава Брышцена**, які знайшоў месца гібелі экіпажа, прыйшоў ліст, у якім паведамлялася, што Сяргей Какшароў загінуў у Беларусі.

– Мы з бацькам, – працягвае Сяргей, – адразу вырашылі ехаць у Беларусь. Але здарылася трагедыя. Мой бацька, сын Сяргея Какшарова, трагічна загінуў. І мая паездка адклалася на цэлых 20 гадоў.

Сёлета сям'я Какшаровых атрымала ліст ад рэдакцыі газеты "Рэспубліка". У ім было паведамленне пра тое, што падчас пошукавых мерапрыемстваў ля вёскі Плябань знайшлі астанкі штурмана Сяргея Какшарова і лётчыкаў Інакенція Букаева і Міхаіла Агешына.

– Я адразу пачаў шукаць сваякоў лётчыкаў, членаў экіпажа майго дзядулі, каб разам з імі прыехаць у Беларусь. Але, на жаль, не знайшоў. Таму прыехаў адзін.

**– Вы ўпершыню ў Беларусі?**

– Так. І мяне ўразіла ваша краіна. Што б ні гаварылі пра прыгажосць і чысціню, але самы галоўны здабытак Беларусі – вашы людзі. Усе, з кім мне пашчасціла пазнаёміцца, вельмі добрыя, чулыя, цудоўныя. Я абавязкова прыеду сюды яшчэ, цяпер ужо са сваёй сям'ёй.



Фота Наталлі ТУР.

**Яўген Сасновіч з Плябані, у двор якога ўпаў самалёт 27 чэрвеня 1941 года. Злева – унук лётчыка Сяргей Какшароў з Екацярынбурга. На фотаздымку 1940 года, які трымае Яўген Сасновіч, сям'я штурмана Сяргея Какшарова: ён сам, яго жонка Клаўдзія Пятроўна і сын Юры. Гэты здымак у рамцы падарыў яму цяпер Сяргей Какшароў. На заднім плане дом, ля якога загінуў экіпаж савецкага самалёта.**

## Як забыцца дзень, калі на твой дом зваліўся самалёт?

Урачыстасць пачалася ў вёсцы Плябань, дзе і абаргвалася жыццё Сяргея Кашкарова і двух другіх членаў экіпажа камандзіра Пятра Логінава – Інакенція Буканава і Міхаіла Агешына.

Другога ліпеня там адбылося адкрыццё помніка. На адкрыцці быў мясцовы жыхар, 77-гадовы **Яўген Сасновіч**, які памятае той дзень, 27 чэрвеня 1941 года, калі ля іх дома збілі самалёт.

**– Вам тады было чатыры гадкі, няўжо помніце той дзень?**

– Памятаю. У той дзень згарэла наша хата. Хіба пра такое можна забыцца? Я бачыў у той дзень, як тры нямецкія "Месеры" акружылі наш савецкі самалёт. Мы з мамай схаваліся. Раптам пачуўся выбух, і савецкі самалёт упаў побач з нашай хатай. Хата загарэлася. Прыбег з поля бацька, які пасвіў каня. Аскепкі самалёта былі раскіданыя па ўсім полі. Мы тады на полі знайшлі тры нагі збітых лётчыкаў, пахавалі на могілках у Плябані. А некаторыя фрагменты целаў лётчыкаў закопвалі тут жа, на нашым полі.

## Перапахавалі аднаго лётчыка, а не трох

Урачыстая цырымонія перапахавання экіпажа Пятра Логінава адбылася ў вёсцы Краснае. Ваенны аркестр, рота ганаровай варты, малебен і ружэйныя залпы – кіраўніцтва раёна і мясцовыя жыхары з усімі ўшанаваннямі правадзілі гераічна загінулых ў 1941-м штурмана Сяргея Какшарова, стралка-радыста Інакенція Букаева і стралка-радыста Міхаіла Агешына.

На ўрачыстай цырымоніі прысутнічаў краязнаўца з Радашкавічаў **Дзмітры Брышцен.** Дзякуючы Дзмітрыю ўдалося выйсці на Сяргея Какшарова.

Бацька Дзмітрыя, Вячаслаў Брышцен, пачаў пошуковыя работы ў гэтых месцах яшчэ ў 80-я гады. Цягам 10 год Вячаслаў кіраваў пошукавым атрадам "Абавязак". Вячаслаў, уласна, і займаўся пошукам самалёта ў і экіпажаў. Пра Сяргея Какшарова Вячаслаў даведаўся яшчэ ў 1992 годзе, тады і накіраваў першы ліст у Екацярынбург.

**– Дзмітры, раскажыце, калі ласка, які чынам вы спрычыніліся да пошуку сваякоў Сяргея Какшарова?**

– Мой бацька пачынаў пошукі ў гэтых месцах яшчэ ў 1986 годзе. Пра самалёт Пятра Логінава даведаўся з расказаў відавочцаў, потым працаваў у архіве. Дзякуючы працы ў архіве яму ўдалося вызначыць усіх трох камандзіраў звяна бамбардзіроўшчыкаў: Логінава, Святава, Аржахоўскага. Усе гэтыя камандзіры засталіся жывымі, звесткі пра іх у архівах захаваліся. Ужо сёння я ведаю, што адзін з экіпажаў быў збіты ля вёскі Вялікая Уланаўшчына. А што датычыцца менавіта Сяргея Какшарова, то ў мяне захаваўся ліст да бацькі, які яму даслаў сын лётчыка, Юры Какшароў. Так і знайшлі ўнука Сяргея Кашкарова.

**– Ці спрабавалі знайсці сваякоў іншых членаў экіпажа, Інакенція Букаева і Міхаіла Агешына?**

– Гэта не так проста. Сяргей Какшароў быў штурманам, афіцэрам. Таму на яго звесткі ў архіве былі. А Букаеў і Агешын былі стралкамі-радыстамі. На радавы і сяржанцкі састаў звестак у архівах менш, чым на афіцэраў, менавіта таму ўзнікаюць складанасці ў пошуку. 223-і полк быў сфарміраваны перад самай вайной. А збілі іх у самым пачатку вайны. Тады стралкамі маглі прызначаць усіх, хто меў дачыненне да ваеннага аэрадрома. Букаеў і Агешын маглі быць простымі тэхнікамі, нават не ваеннымі. Але гэта яшчэ трэба высветліць.

– І яшчэ, – працягвае Дзмітры, – я настойваў на тым, каб само перапахаванне адбывалася ў Плябані. Пра Краснае гаворка наогул не ішла, планавалі першапачаткова ў Маладзечне. У выніку мясцовыя ўлады вырашылі зрабіць перапахаванне ў Красным, але таксама паставілі памятны знак і на месцы гібелі экіпажа. Думаю, што без майго ўдакладнення проста не было б памятнага знака ў Плябані. Гэтым самым як бы аднавілі справядлівасць, але, на жаль, на мітынгу было сказана, што перапахавалі траіх. Гэта не так. Знайшлі астанкі кагосьці аднаго, а каго: Какшарова, Букаева ці Агешына – невядома.

**– Вы працягваеце справу свайго бацькі. Ці можам мы спадзявацца, што ў хуткім часе вернуцца да нас імёны герояў?**

– Усё магчыма. Цяпер я спрабую знайсці сваякоў Інакенція Букаева. Арэал распаўсюджвання гэтага прозвішча ў Смаленску, Арле, Курску.

Застаецца спадзявацца, што вернутыя імёны экіпажа Пятра Логінава – гэта толькі пачатак у раскрыцці ваенных таямніц маладзечанскай зямлі.

## Гісторык авіяцыі Дзмітры Кіенка:

– З усёй гэтай гісторыяй пра перапахаванне збітага пад Плябанню экіпажа хочацца дадаць, што ўсю работу па пошуку і выяўленні загінулага экіпажа правёў Вячаслаў Брышцен 12 гадоў таму. Дзякуючы настойлівасці Дзмітрыя Брышцена на месцы гібелі экіпажа ўсе ж такі ўсталявалі памятную дошку з імёнамі загінулых тут.



Наталля ТУР.
E-mail:
natali.turenok@gmail.com



Многія валожынцы спыняліся, каб паслухаць песні, што гучалі са сцэны ў цэнтры горада.

# "Адна зямля" едзе ў Ашмяны

**ВАЛОЖЫН. Гран-пры сёлетняга конкурсу атрымаў ашмянец Вадзім Лукашэвіч.**

У Ашмяны таксама паехаў і сімвал фестывалю – глобус "Адной зямлі". Гэта значыць, што праз год імпрэза пройдзе на ашмянскай зямлі.

Фестываль адбыўся ў суботу, 5 ліпеня, у Валожыне.

Сёлета выступіла 40 спевакоў з нашага рэгіёна: Астраўца, Валожына, Мядзела, Смаргоні, Валожына, Маладзечна і Вілейкі.

Удзельнікі спявалі на беларускай, украінскай, рускай, англійскай і французскай мовах. Гучалі новыя для гэтага конкурсу песні. Напрыклад, **Вольга Бабойць** з Астраўца выканала песню пераможцы сёлетняга "Еўрабачання" Канчыты Вурст Rise like a phoenix, **Таццяна Макарэвіч** праспявала Demain N'existe Pas з рэпертуару Лары Фабіян, **Аліна Пяткевіч** з Ашмянаў узяла песню Агілеры Somethings got a hold on me.

Многія песні сталі традыцыйнымі для конкурсу, напрыклад "Па-над белым пухам вішняў". А многія паўторы былі ў межах толькі гэтага конкурсу. Напрыклад, "Балада" з рэпертуару гурта "Соніка" праспявалі тройчы запар.

### Топ-ліст самых паўтаральных сёлета песень:

"Балада" – 4 разы
"Затрымай мяне" – 3 разы
"Адажыа" – 2 разы
"Засталася" – 2 разы
"Любовь настала" – 2 разы
"Новы дзень" – 2 разы.

Журы падзялілася, што ім так нават прасцей працаваць: адразу відаць, хто лепш спявае, калі канкурсанты выбралі аднолькавую песню.

Спрэчным застаецца пытанне, колькі песень варта рыхтаваць аднаму выступоўцу. Некаторыя арганізатары лічаць, што дзве песні зацягваюць імпрэзу. А журы трэба праслухаць 80 выступленняў і ацаніць. Даныя можна ацаніць і з першага разу. Канкурсант мае толькі адзін шанец і пралічвае, як сябе паказаць у найлепшым святле.

Аднак некаторыя запэўніваюць, што павінны быць дзве песні – толькі так можна ацаніць талент у цэлым, а не толькі яго частку.

Сакрэт поспеху для канкурсанта можна сфармуляваць так: песня, якую добра спяваеш + выбраць песню па ўзросце + удалы вобраз + артыстычнасць.

У гледачоў жа крыху іншы падыход. Ім хочацца, каб было больш вясёлых песень, пад якія хочацца пусціцца ў скокі.



Гледачам больш даспадобы вясёлыя песні, якім можна падпяваць і крыху парухацца.



Выбраць фаварыта сярод 40 выканаўцаў не так проста. Некаторыя слухачы спрабавалі сябе ў ролі журы і абмяркоўвалі, хто спявае найлепш.

## Пераможцы сёлетняга рэгіянальнага фестывалю-конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля"

**Першая ўзроставая група (9-13 гадоў):**

1 месца – **Кацярына Паўловіч** з Маладзечна,
2 месца – **Віталь Рогач** з Вілейкі,
3 месца – **Ірына Храмцова** з Вілейкі,

**Другая ўзроставая група (14-17 гадоў):**

1 месца – **Марк Войтка** з Маладзечна,
2 месца – **Ганна Быкава** з Вілейкі,
3 месца – **Ангеліна Захарэўская** з Ашмянаў.

**Трэцяя ўзроставая група (18-23 гады):**

Гран-пры – **Вадзім Лукашэвіч** з Ашмянаў,
1 месца – **Аліна Пяткевіч** з Ашмянаў,
2 месца – **Анастасія Шыманка** з Валожына.

**Чацвертая ўзроставая група (24-31 год):**

1 месца – **Таццяна Макарэвіч** з Вілейкі,
2 месца – **Кацярына Макей** з Валожына,
3 месца – **Любоў Шчарбакова** з Ашмянаў і Эдуард Кулагін са Смаргоні.

Прыз глядацкіх сімпатый ад "Рэгіянальнай газеты" атрымаў **Пётр Кулеш** з Вілейкі.

Шмат фота і відэа выступленняў і гледачоў глядзіце на сайце Rh.by

Старонкі 20 і 21 падрыхтавалі



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com


Ангеліна Захарэўская, Ашмяны


Людміла Закрэўская, Ашмяны


Ксенія Крышаловіч, Ашмяны


Кацярына Паўловіч, Маладзечна


Надзея Губіч, Валожын


Віталь Рогач, Вілейка


Кацярына Бібік, Маладзечна


Яна Санюковіч, Валожын


Вольга Ляшковіч, Мядзел


Ірына Храмцова, Вілейка


Аляксандра Маляўская, Смаргонь


Раман Краўчанка, Ашмяны


Марыя Гатауліна, Вілейка


Кацярына Шыманоўская, Смаргонь


Ганна Мартынава, Маладзечна


Любоў Шчарбакова, Ашмяны


Пётр Кулеш, Вілейка


Вольга Бабойць, Астравец



Уладальнікам Гран-пры стаў Вадзім Лукашэвіч з Ашмянаў.


Ганна Быкава, Вілейка


Дар'я Бразоўская, Валожын


Вікторыя Стэрнад, Мядзел


Лізавета Усаевіч, Смаргонь


Дар'я Крывіцкая, Астравец


Аляксандра Шаюк, Маладзечна


Надзея Лукашэвіч, Ашмяны


Юлія Івашка, Астравец


Марк Войтка, Маладзечна


Наталля Івашанка, Маладзечна


Вадзім Лукашэвіч, Ашмяны


Марыя Пракопчык, Валожын


Ірына Казак, Смаргонь


Анастасія Шыманка, Валожын


Таццяна Фірс, Вілейка


Паліна Вазняк, Вілейка


Аліна Пяткевіч, Ашмяны


Эдуард Кулагін, Смаргонь


Вераніка Акуліч, Маладзечна


Кацярына Макей, Валожын


Таццяна Макарэвіч, Вілейка


Анастасія Шугля, Маладзечна


Фота vk.com

Момант гульні супраць каманды ФК "Беліта-Вітэкс". На гарадскім стадыёне ва Уздзе.

ФУТБОЛ

# Выйгралі ў каманды з Узды з лікам 3:1

## Але застаюцца на перадапошнім радку табліцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Перадапошняя гульня першага круга чэмпіянату краіны ў другой лізе адбылася 6 чэрвеня на стадыёне ва Уздзе.**

Удача на гэты раз усміхнулася маладзечанцам. Два мячы ў вароты ФК "Беліта-Вітэкс" забіў абаронца ФК "Маладзечна-2013" **Прохар Новікаў** і адным голам вызначыўся паўабаронца маладзечанцаў **Андрэй Лявончык.**

Гульню каментуе галоўны трэнер ФК "Маладзечна-2013" **Дзмітры Ганчароў:**

– Гульня была роўная. Асабліва ў першым тайме. Моманты былі як у нас, так і ў каманды сапернікаў. Мяне радуе тое, што правілі роўную гульню з камандай, якая прэтэндуе на выхад у наступны этап. Пасля перапынку мы свае моманты рэалізавалі, а ФК "Беліта-Вітэкс" не зусім. Апошнія хвіліны матча нам даваліся панервавацца. У мяне не было гульцоў на замену. Да таго ж **Андрэй Шаблінскі** атрымаў траўму, і гульцам ФК "Маладзечна-2013" давялося дагульваць ў меншасці, на полі было 10 чалавек. Так што перамогу гэту мы заслужылі.

**– Заканчваецца першы круг чэмпіянату. З якімі высновамі падышлі да пачатку другога круга?**

– Будзем працаваць. Цяпер у камандзе не хапае 3-4 чалавек. Буду працаваць над гэтым. А ў цэлым, у будучыню я гляджу з аптымізмам. Пажывём-пабачым.

Да заканчэння першага круга маладзечанцы падышлі, займаючы перадапошняе месца ў турнірнай табліцы.

Пачынаючы з красавіка падначаленыя Дзмітрыя Ганчарова саступілі ў шасці сустрэчах. Дзве з іх супраць камандаў з Клецка і "Партызан" Мінск прайгралі ў сухую з лікам 3:0 і 2:0 адпаведна. Крыўдны пройгрыш каманда "Маладзечна-2013" атрымала ад сталічнай каманды "Крумкачы", у гульні з якой маладзечанцы прапусцілі пяць мячоў, а адыграць змаглі чатыры. Адну гульню супраць ФК "Лівадзія" сыгралі ўнічыю.

У трох гульнях маладзечанцы перамагалі. Трэба адзначыць, што адзін з выйгрышаў каманды можна назваць сенсацыйным. Гаворка ідзе пра матч супраць каманды ФК "Колас-Дружба", у якім маладзечанцы перамаглі сапернікаў з разгромным лікам 7:0.

Апошняя гульня першага круга адбудзецца 12 ліпеня на гарадскім стадыёне. Каманда Дзмітрыя Ганчарова паспрачаецца з камандай Кобрына.

**Наталля ТУР.**

ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## Смаргонцы забілі гол з падручніка і перамаглі "Хвалю-Пінск"

**СМАРГОНЬ. У суботу, 5 ліпеня, "Смаргонь" правяла дамашні матч 13-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Супрацьстаяла смаргонцам каманда "Хваля-Пінск". Смаргонцы выйгралі з лікам 3:1.**

На пятай хвіліне "Смаргонь" вывеў наперад паўабаронца **Сяргей Равіна**. Потым госці забілі гол у адказ. Але неўзабаве, на 32-й хвіліне, вызначыўся **Яўген Калінін**. Фінальны лік устанавіў на 65-й хвіліне **Аляксандр Сямёнаў**.

Па каментар звярнуліся да смаргонца **Арцёма Войткі**. Ён заўзятар са стажам, за "Смаргонь" "хварэе" дзясяты сезон:

– Каманда добра гуляла, але не ўсе моманты рэалізавалі гульцы, яшчэ два галы стабільна маглі забіць. Той жа **Юры Мархель**, які выйшаў на замену, мог вызначыцца.

**– Увогуле, ці спадабалася гульня?**

– Спадабалася. Бачна, што смаргонцы гулялі камандай. І атрымлівалася многае, і разумелі адзін аднаго. Я сам дзевяць год футболам займаўся – бачу, калі гульня ідзе. На мой погляд, маладому **Максіму Яблонскаму** трэба больш гульнявога часу даваць. Яго выпусцілі ў самым канцы матча, і ён добра сябе паказаў.

На рэалізацыю галявых момантаў наракаў пасля матча і галоўны трэнер ФК "Смаргонь" **Павел Бацюта**. Паабяцаў: "Над гэтым кампанентам будзем працаваць".

Старшы трэнер гасцей **Вадзім Бяленка** прызнаў, што гаспадары былі мацнейшыя ва ўсіх футбольных кампанентах: "Таму сёння яны перамаглі заслужана – ніякіх пытанняў у гэтым плане няма". Вельмі спадабаўся яму першы гол смаргонцаў: "Першы мяч гаспадароў трэба занесці ў падручнікі футбола: на ўсе лжывыя перамяшчэнні сапернікаў нашы абаронцы адрэагавалі менавіта так, як і неабходна было боку, што атакуе".

"Смаргонь" цяпер займае ў турнірнай табліцы восьмае месца. На рахунку каманды – 19 ачкоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Уладзіміра АМБРАСЕВІЧА.

Момант гульні паміж "Смаргонню" і "Хваляй-Пінск".

ХАКЕЙ

## Распрацавалі дызайн формы "Дынама-Маладзечна"

**МАЛАДЗЕЧНА. Распрацаваны дызайн джэрсі, у якім гульцы хакейнай каманды "Дынама-Маладзечна" будуць выходзіць на лёд.**

Адмысловая для гэтай формы быў створаны ўласны лагатып, у якім развіта тэма талісмана каманды – сімвала Беларусі – зубра. Колеравая гама цалкам адпавядае клубнай традыцыі, паведамляе hcdinamo.by. Таксама ў дызайн арганічна ўплеценая сімволіка Мінскай вобласці і горада Маладзечна, гонар якіх будзе абараняць каманда.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота hcdinamo.by

У такой форме будуць гуляць хакеісты "Дынама-Маладзечна".

НАВІНЫ

### Мядзяльчане лепшыя ў вобласці па пляжным валейболе

**МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 27 па 29 чэрвеня ў Маладзечне праходзіў чэмпіянат Мінскай вобласці па пляжным валейболе. Вызначыліся ў ім прадстаўнікі Мядзельскага раёна. **Андрэй Русак** і **Аляксей Капусцін** занялі першае месца. Атрымалі кубак і дыплом Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі.

### У Вілейцы стартавала першынство па футболе

**ВІЛЕЙКА.** Стартавала першынство Вілейскага раёна па футболе. Удзельнічаюць у ім шэсць камандаў. Яны згуляюць у два кругі, а потым, магчыма, будзе і плэй-оф, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

Першыя два матчы адбыліся 5 ліпеня. СВК "Чурлёны" прайгралі "Мехатроніцы" 3:7, а "Першы Беларускі" выйграў у "Вязыні" 6:1. Апроч гэтых камандаў, у першынстве бяруць удзел "Буддэталі" і "Шылавічы".

### Пройдзе турзлёт

**ВІЛЕЙКА.** Ад 11 па 13 ліпеня на беразе Вілейскага вадасховішча мяркуюць правесці адкрыты міжрэгіянальны турысцкі злёт працоўнай моладзі памяці **Віталя Кастэнкі**. У праграме – сілавое двbadзборʼе, міні-футбол, веславанне, віды спартыўнага турызму.

**Аддзел інфармацыі.**

ДУХОЎНАСЦЬ

# Будслаў наведала каля 25 тысяч пілігрымаў

## Самы малодшы – двухмесячны Мацвей з Ракава

**МЯДЗЕЛ. Урачыстасці Маці Божай Будслаўскай прайшлі 4 і 5 ліпеня. За два дні Будслаў наведала каля 25 тысяч пілігрымаў, інфармуе прэс-служба Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі.**

З іх пешшу ў Будслаў прыйшлі больш за дзве з паловай тысячы пілігрымаў. Напрыклад, у пілігрымцы з Маладзечна было 383 чалавекі, Ракава – 95, Вілейкі – 105, Нарачы – 223, Гудагая – 130 і са Смаргоні – 170 чалавек. Разам з пілігрымамі з Маладзечна ішоў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп **Клаўдые Гуджэроці**.

Былі пілігрымкі з Мінска і Віцебска, Полацка і Глыбокага, Браслава і Мёраў, Варапаева.

Самаму маленькаму пілігрыму толькі два месяцы – гэта **Мацвей Шаршунс** з Ракава, паведамляе catholic.by.

Фэст завяршыўся 5 ліпеня ўрачыстай імшой.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота catholic.by.

Будслаў збірае тых, хто хоча ачысціць душу.



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 5 | 4 | | | | 2 |
| | | 3 | 1 | | | 6 | | |
| | | | | | 2 | | | 7 |
| | | 2 | | | 9 | 3 | | 1 |
| 9 | | | | | | | | 4 |
| 7 | | 1 | 6 | | | 2 | | |
| 1 | | | 8 | | | | | |
| | | 7 | | | 4 | 8 | | |
| 2 | | | | 7 | 3 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйная камедыя "**Як прыручыць дракона 2**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
12 ліпеня – у 13:00
13 ліпеня – у 13:30
Кошт білета – 40 000-50 000 рублёў

Гісторыка-спартыўная драма "**Ліга мары**" (Францыя, 2014)
12 ліпеня – у 21:00
13 ліпеня – у 15:30
16 ліпеня – у 15:30
Кошт білета – 40 000 рублёў

Фантастычны баявік "**Трансформеры: Эпоха знішчэння**", 3D (ЗША, Кітай, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
11, 12 ліпеня – у 15:30
13 ліпеня – у 18:00
14 ліпеня – у 21:00
15, 16 ліпеня – у 18:00
17 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, сямейны "**Змешаныя**" (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
11 ліпеня – у 18:30
13 ліпеня – у 21:00
16 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 40 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастычны трылер "**Перавага**" (Вялікабрытанія, ЗША, Кітай, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
10, 11 ліпеня – у 21:00
12 ліпеня – у 18:30
14 ліпеня – у 18:30
15 ліпеня – у 21:00
17 ліпеня – у 16:00
Кошт білета – 40 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастычны трылер, баявік "**Планета малпаў: рэвалюцыя**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
17 ліпеня – у 18:30

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Пушыстыя супраць Зубастых**" (Паўднёвая Карэя, ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
11, 12, 13 ліпеня – у 16:00
15 ліпеня – у 16:00
16 ліпеня – у 16:30
17 ліпеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Фэнтэзі, меладрама "**Чароўныя стварэнні**" (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
11, 12, 13 ліпеня – у 19:00, 21:30
14 ліпеня – у 21:30
15, 16, 17 ліпеня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Дыяна: гісторыя кахання**" (Вялікабрытанія, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога)
11, 12, 13, 16, 17 ліпеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Змрочныя нябёсы**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
11, 12, 13, 16, 17 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Прыгоды "**Цуд-востраў, або Палескія рабінзоны**" (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
12, 13 ліпеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59.**

ГАРАСКОП (11-17 ЛІПЕНЯ)


**Авен.** Стрымлівайце жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць "уласную" праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям.


**Цялец.** "Пасяліце" ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказваць ў патрэбным месцы ў патрэбны час.


**Блізняты.** Спыніце адносіны з людзьмі, якія перашкаджаюць вам вучыцца, жыць і працаваць. Набярыцеся сіл і цвёрда скажыце ім "не".


**Рак.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца як бяссонніца, прастудныя захворванні, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.


**Леў.** Каб вярнуцца ў рабочы строй, адшукайце ўнутраныя рэзервы. Як толькі вы пераключыцеся, то адразу ж заўважыце, як у вас адкрываецца другое дыханне і з'яўляюцца новыя сілы.


**Дзева.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца.


**Шалі.** Вы ўсё пераважваеце, сумняваецеся, ці правільна зрабілі, ці правільнае рашэнне прынялі. Ад гэтага псуецца настрой. Не перажывайце, будзьце ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, і ўсё атрымаецца.


**Скарпіён.** Памятайце, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся.


**Стралец.** Часцей заставайцеся сам-насам, каб у цішыні і спакоі падумаць аб тым, чаго на самой справе вы хочаце. Знайдзіце "дарогу да сябе", і вы станеце самім сабой, займееце ўнутраны спакой.


**Казярог.** Вы будзеце літаральна свяціцца энергіяй і шчасцем, усё будзе атрымоўвацца, любыя пытанні вырашацца.


**Вадалей.** У вас ёсць запаветная мара, але яна надта глыбока ляжыць у вас унутры, трошкі выцягвайце яе наверх, сілкуйце сваёй энергіяй, уяўляйце, і яна абавязкова збудзецца.


**Рыбы.** Вас наведае натхненне, ды так, што вам захочацца ўзяць у рукі пэндзлік і паспрабаваць што-небудзь намаляваць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

12 ліпеня, субота




| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 +18 | +16 +24 | +19 +25 | +20 +24 |
| | 738 ↙ 8 | 737 ← 8 | 737 ↖ 7 | 736 ↖ 4 |
| Вільня | +15 +18 | +14 +25 | +18 +28 | +19 +24 |
| | 748 ← 9 | 744 ← 8 | 744 ← 6 | 743 ↖ 4 |

Тэмпература Вобланачасць паветра ападкі Ціск Хуткасць ветра (мм рт. сл.) м/с; Усход, захад на Малад-зечне

Усход 4.54 Захад 21.42 Даўжыня дня 16.48

Усход 21.09 Захад 5.06 Квадра 3

## ПРЫКМЕТЫ

- Пятра (12 ліпеня) – дзень апосталаў Пятра і Паўла. "Прыйшоў Пятрок – адпаў лісток". Салавей і зязюля пяюць да Пятра.
- Ноч без расы – дзень з даждком.

## Чытайце праз тыдзень:

- Як стаць матацыклістам – падрабязная інструкцыя. Якія дакументы спатрэбяцца? Якую адказнасць мае кіроўца двухколавага транспарту?



## КРАЯЗНАЎСТВА

# Экспедыцыя завяршылася ў Міхалішках

**ВІЛЕЙКА. Восьмая экспедыцыя па Віліі "Шляхам Канстанціна Тышкевіча-2014" стартавала 3 ліпеня з Вілейкі.**

Урачысты старт адбыўся на свяце ва ўрочышчы Дубаўка.

Удзельнічалі ў воднай экспедыцыі каля 70 чалавек:

– Гэта жыхары Вілейкі, Ашмянаў, Жодзішак, Смаргоні, Мінска, Лагойска, – расказаў кіраўнік экспедыцыі **Міхаіл Петух.**

Не ўсе з іх прайшлі маршрут цалкам: падарожнічалі столькі дзён, хто колькі змог. У экспедыцыі былі людзі рознага ўзросту: ад трох да 60.

Удзельнікі не толькі наведвалі цікавыя мясціны, але і праводзілі экалагічныя даследаванні.

Завяршылася экспедыцыя 9 ліпеня – сёлета падарожжа скончылася ў вёсцы Міхалішкі на Астравеччыне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Ігара МАРОЗА.

Экспедыцыя "Шляхам Канстанціна Тышкевіча-2014" стартавала ў Вілейцы. Справа налева Анастасія Краснова, Аляксандр Хайко, Міхась Міхалевіч.



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 28 (1002) 11.07.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 588. Падпісана ў друк у 10.00 10.07.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.